 

# СУПРАСЛЬ У МІНУЛЫМ

На Беласточчыне не мала ёсць мясцін, якія ў гісторыі культуры ўсходняй Славяншчыны займаюць выдатнае месца. Гэта перш-наперш Заблудаў, які ў XV і XVI стагоддзях быў значным культурным цэнтрам у тагачасным Вялікім Княстве Літоўскім і Супрасль, каторы таксама з'яўляўся на працягу ўсяго XVI стагоддзя важным асяродздем беларускай культуры на Падляшшы.

Заблудаў вядомы, як горад у якім у 1569 годзе Пятро Мсціславец і Іван Фёдараў заснавалі друкарню кніг з кірылаўскім шрыфтам. У год заснавання друкарні яны выпусцілі першую ў Расіі друкаваную кнігу «Евангеліе вучыцельнае». Затым ў 1570 годзе імі-ж быў надрукаваны псалтыр з часасловам. Праўда, потым Фёдараў перабраўся да Львова, а Мсціславец да Вільні, дзе яны прадаўжалі сваю працу друкароў. Аднак, за назвай Заблудаў і па сённяшні дзень захавалася слава месца, у якім упершыню была надрукавана руская кніга.

Супрасль-жа ўвайшоў да гісторыі, як месца, дзе быў знойдзены адзін з найбольш старажытных рукапісаў на стараславянскай (царкоўнаславянскай), мове т. зв. «Супраскі кодэкс», які паходзіць з XI стагоддзя. «Супраскі кодэкс» з'яўляецца вельмі каштоўным помнікам старaславянскай мовы, помнікам, які залічваецца да невялікай колькасці помнікаў сусветнай культуры. Але не толькі «Супраскі кодэкс» прынёс славу Супраслю.

У 1498 годзе граф Аляксандр Іванавіч Хадкевіч, ваявода навагрудскі і маршалак Вялікага Княства Літоўскага, валадар зямель і радавога палаца ў Заблудаве, прывёз з Кіева — Пячэрскай лаўры (паданне гаворыць, што з самай гары Афона) праваслаўных манахаў і пасяліў іх у сваёй крэпасці ў Гарадку (сённяшні Гарадок каля Беластока). Манахі былі патрэбны графу. Неабходна было ўсімі сродкамі забяспечыць свае ўладанні ад палітычнага і рэлігійнага націску з боку польскіх магнатаў, якія ў той час усімі сіламі імкнуліся захапіць багатыя і даходныя землі літоўскія. Манахам было даручана заданне ахоўваць мясцовых жыхароў ад спакусы перайсці на каталіцкую веру, а тым самым — папасці пад уздзеянне Польшчы.

Манахі пражылі ў Гарадку толькі 2 гады. Не спадабалася ім, — як кажа легенда — гуляшчае свецкае жыццё двара Хадкевіча. Вырашылі яны пабудаваць асобна свой манастыр. Да пабудовы выбралі месца больш укромнае і адначасова выгаднейшае — урочышча Сухія груды ў Блудаўскіх лясах на беразе ракі Супраслі, дзе ўліваюцца да яе рэчкі Грабаўка і Бярозаўка. У 1500 годзе пачалі будову манастыра, руіны якога захаваліся па сённяшні дзень. Аднак будова не спорылася — цяжкавата было манахам не навыкшым да цяжкай працы.

У 1510 годзе Хадкевіч ахвяраваў манастыру Хворошч (сённяшняя Хорошч) і землі да яе прылягаючыя, абмежаваныя рэкамі: Нарвай, Супраслям, Белым Істокам, Хворашчай і Рагаўкай з мэтай, каб прыгонныя сяляне памаглі ў будове. Уважыў вялікае значэнне супраскага манастыра, як найдалей на захад высунутага пункта праваслаўя і архіепіскап смаленскі Іосіф Солтан, які ў 1506 годзе афяраваў манастыру вёскі Тапілец, Бацюты і Пышчавс, паложаныя над р. Нарвай. Багацце манастыра дазволіла запрасіць архітэктараў з Італіі, якія і пабудавалі царкву, у той час слаўтўшуюся прыгажосцю і багаццем.

Сто год супраскі манастыр быў апорай беларускай культуры на Падляшшы. У другой палове XVI стагоддзя манастыр наведаў праваслаўны патрыярх з Канстантынопаля. Слава манастыра распаўсюджвалася далёка за межы Літвы і Русі. Мітрапаліт усяе Русі, І. Солтан у сваіх прамовах некалькі разоў упамінаў ягоны, ставячы скромнае жыццё супраскіх манахаў у прыклад іншым. Бо трэба ведаць, што ў той час амаль усе манастыры вялі гуляшчае жыццё, а ў келлях манахаў не пераводзілася віно і гарэлка.

Пры манастыры існавала школа, а таксама вельмі багатая, як на тыя часы, бібліятэка, перлай якой і быў рукапіс вядомы нам пад назвай «Супраскі кодэкс».

У канцы XVI і пачатку XVII стагоддзя на сучасных беларускіх землях разгаралася барацьба вакол уніі праваслаўнай царквы з каталіцкай, якая была вынікам дзяржаўнай уніі Літвы з Польшчай, падпісанай у 1596 г. Ініцыятарам уніі было каталіцкае духавенства і польскія магнаты. Духоўным кіраўніком і абаронцам — Пётр Скарга. Рэлігійная барацьба пачынала прынімаць грамадзянскі і народны характар. Польскія магнаты пачалі актыўна падпарадкоўваць беларускія землі пры дапамозе ўніятаў пад сваю ўладу. Беларускі народ супраціўляўся.

Не ўстаяў аднак супраскі манастыр. Ужо ў 1627 годзе, пад націскам уніяцкага ўладыкі Коленды, ён стаў сталіцай уніятчыны. Адсюль ішлі кнігі і адозвы да праваслаўных, каб пераходзілі ў унію. Затым у 1722 годзе манастыр стаў сталіцаю базільянскага ордэна. У гэтым-жа годзе тут была заснавана вялікая друкарня кніг кірылаўскім і лацінскім шрыфтам. Яна паўстала не на пустым месцы. Ёсць думкі, што Заблудаўская друкарня была перавезена ў Супрасль і ў ёй друкаваліся кнігі цэлае стагоддзе. У ёй друкаваліся ў 1743 годзе кнігі для стараабрадцаў Міхалам Салаўёвым. Бібліятэка напаўнялася. Пры базыльянах яна мела рускія, лацінскія, польскія, французскія і стараславянскія кнігі. Наколькі быў багаты манастыр, сведчыць факт, што за свае грошы ён узяў пад залог агромныя маёмасці графа Івана Браніцкага.

Перажыўшы шматлікія войны і пабачыўшы і пагасціўшы ў сваіх сценах каралёў і магутных мінулышчыны, як караля польскага Аўгуста II, які наведаў манастыр у 1730 годзе, манастыр у 1807 годзе ізноў стаў праваслаўным. Аднак ніколі не дасягнуў тае вяршыні славы, якою карыстаўся ў XVI і XVII стагоддзях. Замест рэлігійнага цэнтра ў XIX стагоддзі Супрасль стаў вядомым вырабам тэкстыльных матэрыялаў. Першая фабрыка была пабудавана ў 1833 годзе фабрыкантам Захертам. У 1857 годзе тэкстыльных фабрык стала 6. Яны выпускалі 300.000 аршын сукна і тэкстылій у год. Мястэчка налічвала 3.450 чалавек насельніцтва, з якіх амаль палова беларусы.

М. ГАЙДУК

*(рэд.) Славутую супраскую царкву, якая ўпамінаецца ў артыкуле, узарвалі гітлераўцы, адступаючы ў 1944 г.*

## Новы каляндар

*Беларускі каляндар на 1958 год. Другі год выдання. Беласток. Выдавецтва — Беларускае грамадска - культурнае таварыства ў Польшчы. Фармат 14х19,6 см. Стар. 128. Цана 10 зл.*

*Змест каляндара багаты і разнастайны. Апрача таго ў ім шмат прыгожых ілюстрацый.*

*У першай частцы, у так званым календарыі пададзены новы і стары стылі, дзяржаўныя, а таксама праваслаўныя і каталіцкія святы. На кожны месяц маюцца тут народныя прыкметы аб пагодзе. Далей ёсць артыкулы аб розніцы паміж новым і старым стылямі і аб сонечнай сістэме, табліца важнейшых гістарычных дат, большасць якіх адносіцца да жыцця беларускага народа.*

*Розныя цікавыя весткі знаходзяцца ў артыкулах аб Польшчы і Беларусі.*

*У кутку паэзіі змешчаны вершы маладых беларускіх паэтаў Беласточчыны.*

*Земляробы знойдуць у каляндары шмат патрэбных сельскагаспадарчых парад. У «Кутку маладой гаспадыні» ёсць карысныя парады па хатняй гаспадарцы, між імі і кулінарныя.*

*Старонкі гумару развесяляць самага сумнага.*

*У кароткай нататцы няма магчымасці ўспомніць аб усім, што ў каляндары ёсць. Яго варта купіць і мець пад рукою, як сваю настольную кніжку.* М. Б.

# Сельскагаспадарчыя парады

## Лён — вялікая крыніца даходу

Лён — расліна прыморскага клімату, прывезеная з поўдня - заходняй Азіі, дзе падае многа дажджоў і менш насвятляе сонца (дажджы аднак павінны быць умераныя, бо праліўныя шкодзяць ільну).

Лён добра ўдаецца на цэлым беразе Поўночнага мора і Балтыйскага (поўночная Францыя, Бельгія, Галандыя, Данія, Нямеччына, Польшча, Літва, Беларусь і СССР). У Польшчы асабліва добра расце лён у заходніх і поўночных раёнах краіны.

Селянін з вёскі Пятрова-Трасяны (Бельскі павет) — Іван Невяроўскі закантрактаваў на 1957 год 1 гектар ільну. Лён пасеяў па зімовай пшаніцы, якая расла на канюшыне. Зжаўшы пшаніцу гэты селянін, заараў іржышча на глыбіню 5—7 см. Пасля на зіму зaараў глыбока. Вясною папружыніў поле, пасля даў на гектар 150 кг 40-працэнтавай патаснай солі і 200 кг суперфасфату і прыбаранаваў змешваючы разам з насеннем ільну. На 1 гектар высеяў 150 кг насення. Лён быў пасеяны ў радкі. У часе ўзросту лён толькі раз трэба было палоць. З аднаго гектара Невяроўскі сабраў 67 цэнтнераў ільну. Гэты лён завёз на ільнозавод і атрымаў па 135 зл. за цэнтнер г. зн. 9.045 зл за ўвесь лён.

Як бачым вырошчванне ільну вельмі паплатнае, таму што з аднаго гектара можна мець больш 9 тысяч зл. даходу. Іван Невяроўскі, каб лепш пазнаёміцца з сельскагаспадарчай культурай чытае сельскагаспадарчыя часопісы, кніжкі і ў такі спосаб павялічвае даход са сваёй гаспадаркі.

(Угнаенне і насенне каштавала яго каля 1.500 зл., а даходу меў 9.045 зл).

інж. В. МІРОН

КУТОК ГАСПАДЫНІ

## Хруст

Малако, смятану, жаўткі яйка, цукровую пудру, соль і крыху кан'яку або гарэлкі добра перамяшаць і, паступова ўсыпаючы муку, замясіць крутое цеста. Цеста раскатаць тонкім гластам, як на локшыну, нарэзаць вузкімі палоскамі даўжынёй 10—12 сантыметраў, пераплесці іх, склаўшы па 2—3 палоскі разам, зляпіць канцы, злёгку змазваючы бялком.

Цеста апусціць у гарачы тлушч, падрыхтаваны з таплёнага масла і шмальца, або алею. Гатовы хруст выняць відэльцам на рэшата або на паперу і пасыпаць цукровай пудрай, змешанай з ванілінам, цэдрай або карыцай.

На 2,5 шклянкі мукі тры жаўткі, 1 сталовую лыжку цукру, 2 сталовыя лыжкі кан'яку, адну сталовую лыжку смятаны, 1/4 чайнай лыжкі солі 1/2 шклянкі малака і шклянку тлушчу да смажання.

АЛЯКСАНДР ОМІЛЬЯНОВІЧ

# Дэсант „Дальные"

(Працяг са стар. 5)

яго інфармацыі многа дапамаглі ў дыверсійнай і партызанскай дзейнасці.

Пры вуліцы Галавескай у Бельску знаходзіўся нямецкі карны лагер. Акупанты звозілі сюды людзей з цэлай Бельшчыны. Пасля зверскіх допытаў многіх з гэтага лагера расстрэльвалі, а іншых вывозілі ў Асвенцім, Штутгоф. Атрымаўшы ад Вінтэра інфармацыі наконт персанальнага складу той адміністрацыі, Валодзька задумаў завербаваць аднаго паліцая. Выбраны ім паліцыянт любіў выпіць і, ясна, патрабаваў шмат грошай. Праз аднаго з сувязных, які быў знаёмы з гэтым паліцаям, пастанавілі прывабіць яго на канспірацыйную кватэру Косці. Патрэбна было наладзіць папойку. І тут паўтарылася тое самае, што з панам Вінтэрам. Валодзька паклаў на стале даволі вялікую пачку марак і пісталет. Фрыцу давялося выбіраць — або маркі, або кулю. Зразумела, што выбраў маркі, падпісаў абавязацельства, даў шэраг цікавых інфармацыяў аб лагеры і пакляўся верна супрацоўнічаць.

І ён аж да самага канца вайны быў актыўным агентам Валодзі. Дзякуючы яму, перасылана ў лагер некаторым асобам канспірацыйныя пісьмы, заўсёды расказваў аб допытах, расстрэлах і г. д.

Інфармацыйная сетка Валодзі ў Бельску значна пашыралася і атрымліваныя ад яе паведамленні адыгралі сур'ёзную ролю ў барацьбе супроць акупантаў. Косця пастараўся машынку да пісання, якую Валодзька ператранспартаваў у зямлянку. Выстараліся калькі і паперы. Адзін партызан з атрада імя Пархаменкі цэлымі днямі і начамі пісаў на гэтай машынцы лістоўкі і паведамленні з фронта, якія партызанскія патрулі разносілі па навакольных вёсках падтрымліваючы такім чынам на духу людзей і выклікаючы большае супраціўленне фашыстам.

Валодзя цешыўся. Не гледзячы на няўдачы першых дзён у далейшым аднак усё ішло як найлепш. Маючы добрае цывільнае адзенне і дакументы на імя Вальдэмара Вроньскага мог смела ездзіць паяздамі і свабодна вандраваць па Бельшчыне. Даволі часта ездзіў у Беласток. Не раз і не два кантралявалі яго немцы. Аднак не выклікаў у іх падазронасці.

У адной вёсцы на Бельшчыне жыла яго сям'я. Асцярожна навязаў з ёю кантакт. Бацькі па-прасту не верылі, што іх сын жыве; датыкалі яго рукамі, расцалоўвалі — думалі, што ён ужо даўно недзе загінуў у стэпах бязмежнай Расіі. Яго з'яўленне трымалася ў вялікай таямніцы. У зямлянку пад Шашыламі да рук Валодзі плылі з усіх бакоў штораз цаннейшыя весткі. Сувязныя — разведчыкі траіліся ў рабоце. Па нейкім часе з Беластока і з усёй поўднёвай Беласточчыны, Валодзя меў даныя аб размяшчэнні і ліку нямецкіх аэрадромаў і руху на іх; планы казармаў і інфармацыі аб атрадах, якія размясціліся ў іх. Сістэматычна інфармавана аб пагрузках на станцыях і кірунках вайсковых транспартаў, руху на станцыях і г. д. Быў дакладны пералік нямецкай адміністрацыі — асабліва гестапа — і супрацоўнічаючых з імі агентаў.

(Працяг у наступным нумары).



 

